



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12 верасня 2014 года №37 (1011)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### 14-гадовы раварыст сутыкнуўся з аўто

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося 7 верасня. Вучань шостай гімназіі пераязджаў вуліцу Віленскую на чырвоны сігнал святлафора. У гэты час кіроўца аўтамабіля "Сітраэн-Ксантыя" паварочваў з Вялікага Гасцінца на Віленскую на дазволены яму сігнал святлафора. У выніку сутыкнення хлопчык атрымаў траўмы і быў шпіталізаваны.

### На выхадных у Будзёнаўцы пройдзе матакрос

**АШМЯНЫ.** Пачатак спаборніцтваў а палове другой у суботу. У нядзелю, 14 верасня, ад 12:00 да 13:20 – святочнае адкрыццё. А палове першай пачатак кросу сярод мужчын у класах 50, 85 і 125 кубічных сантыметраў. Спаборніцтвы "Хобі" і "Ветэран", матацыклаў з люлькамі пройдуць у класах да 500 кубічных сантыметраў.

### Нарыхтоўваюць садавіну ў Ілаве

**МЯДЗЕЛ.** 297 тон садавіны сабралі на УП "Ілаўскае". Назапасілі 37 з паловай тон клубніц, 186 тон чорных парэчак і 69 чырвоных, дзве з паловай тоны буякоў. Цяпер ідзе нарыхтоўка яблыкаў. Ужо сабралі дзве тоны. Запланавана назапасіць чатыры. Садавіну здаюць Мядзельскае, Вілейскае, Клецкае, Докшыцкае, Глыбоцкае раённыя спажывецкія таварыствы. У хуткім часе пачнуць прымаць брусніцы і журавіны. Частка з іх пойдзе ў кансервавы цэх на пюрэ і павідла. Потым іх паставяць на кандытарскія прадпрыемствы.

### Дапамажыце прыбраць свой горад

**БЕЛАРУСЬ.** Наша краіна далучылася да сусветнай экалагічнай акцыі "Зробім!", якая пройдзе ад 13 верасня да 12 кастрычніка. Арганізаваць маштабныя ўборкі смецця можа кожны: трэба абраць забруджанае месца, знайсці валанцёраў, дамовіцца аб часе працы, сабраць смецце і вывезці яго ў спецыяльна адведзеныя месцы. Калі ўборка пройдзе ў межах горада, трэба скантактавацца з кіраўніцтвам мясцовай камунальнай гаспадаркі. Распавесці пра вынікі працы можна будзе на сайце greenmap.by. На пытанні наконт акцыі адкажа экалагічнае таварыства "Зялёная сетка" па тэлефоне (8-029) **129-16-10**. Першая ўборка пройдзе 14 верасня на Мінскім Моры.

### Паглядзець працы мастачкі з Астраўца

**ВІЛЕЙКА.** Выстава мастачкі **Тэрэсы Варановіч** адкрыецца 20 верасня ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча. На выставе Тэрэса Варановіч пакажа каля 20 сваіх прац, якія прысвечаныя Астравеччыне і астраўчанам. У дзень адкрыцця выставы адбудзецца сустрэча з мастачкай.

**Аддзел інфармацыі.**

# "Забудова" ў крызісе праз крэдыты

**МАЛАДЗЕЧНА. Што адбываецца на адным з найбуйнейшых холдынгаў і як можна ўратаваць яго? Чым незадаволеныя рабочыя і якія шляхі для вырашэння праблемы бачыць кіраўніцтва?**




**64% акцый "Забудовы" належыць дзяржаве. Таму кіраўніцтва кампаніі спадзяецца, што дзяржава дапаможа прадпрыемству выйсці з запазычанасці.**

Пра сваю незадаволенасць тым, што адбываецца, рабочыя "Забудовы" напісалі рэдакцыі "РГ" яшчэ летась у лістападзе. Іх найбольш непакоіла, што заробкі выплачваюць несвоечасова і не цалкам, а таксама, што ў рабочых няма поўнай загружанасці.

Кіраўніцтва ААТ "Кіруючая кампанія холдынгу "Забудова" адказала на гэта, што заробак выплацілі, але часткамі. Затрымку патлумачылі сезонным падзеннем попыту і запазычанасцю.

Праз некалькі месяцаў рабочыя "Забудовы" зноў звярнуліся ў рэдакцыю, не маючы, на іхнюю думку, іншага спосабу звярнуць на сябе ўвагу. Друкуем вытрымкі з іх ліста:

"Народ бяжыць з усіх прадпрыемстваў холдынгу, як пацукі з карабля, што тоне. Усё з-за таго, што заробак плацяць часткамі, адмянілі авансы. Начальства не тлумачыць рабочым і не адказвае, калі выплацяць усю зарплату. Падымалі заробак апошні раз больш як год таму. Сёлета паднялі толькі адзінкам. Як усім дамагчыся, каб паднялі заробак?

Работа ёсць час ад часу. Калі яе няма, высокакваліфікаваныя работнікі падмятаюць цэх, фарбуюць агароджу. Мы просім, каб людзей загружалі, павысілі заробкі і выплачвалі ў час!"

### Праблемы праз запазычанасць

Сітуацыю на "Забудове" з намі абмеркаваў намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце, сацыяльным развіцці і аграрных пытаннях **Генрых Кутас**.

Ён не хавае, што прадпрыемства мае фінансавыя праблемы і ацэньвае цяперашні стан як найскладанейшы. Прычыну кіраўніцтва бачыць у тым, што доўгі час бралі крэдыты пад высокія працэнты. Цяпер вялікая частка абаротных сродкаў ідзе на іх пагашэнне. У той жа час, ёсць пакупнікі, якія маюць запазычанасці і перад "Забудовай" за ўжо адгружаны тавар.

Наконт заробкаў Генрых Кутас адказаў, што кампанія павінна выплачваць яго да 25 чысла за справаздачны перыяд. Цяпер звычайна грошы налічваюць ад 25 да канца месяца цалкам.

> **Сярэдні заробак на "Забудове" больш за пяць мільёнаў рублёў, паведаміла кіраўніцтва прадпрыемства.**

### Стаяць тры заводы з чатырох

Калі б прадпрыемства працавала на ўсю магутнасць без перапынку, то ўжо за адзін месяц такой работы мела б прыбытак. Але такога не адбываецца: прадпрыемства не атрымлівае дастаткова сыравіны зноў жа праз запазычанасць. У першую чаргу гэта тычыцца цэментных заводаў-пастаўшчыкоў, якія з-за доўгу не даюць сыравіну. Адзін дзень прастою дае вялікія страты.

Тры заводы "Забудовы" – будаўнічых канструкцый, будматэрыялаў і дахавай чарапіцы – цяпер стаяць. З чатырох заводаў холдынгу працуе толькі дрэваапрацоўчы. Для яго работы ёсць камплектуючыя.

Многіх рабочых адпусцілі на 2/3 стаўкі, іх заробкі зменшылі. Кіраўніцтва трымаецца пазіцыі: пачакаць некалькі дзён і дачакацца сыравіны, каб за адзін дзень выканаць работу.

Цякучасць кадраў кіраўніцтва бачыць, але цяпер гэта не самая актуальная праблема: будаўнічы сезон закрываецца.

Намеснік гендырэктара падкрэсліў, што склады маюць запасы толькі на некалькі дзён, а тавары раскупляюць. Вырабы з цэменту добра ідуць на продаж. На рабоце з дрэвам сітуацыя крыху іншая. За 21 дзень рабочыя паспяваюць выканаць патрэбную работу. А вось грошы ад заказчыка чакаюць месяцамі.

> **ААТ "Забудова" цягам 20 год займае пазіцыю аднаго з найбуйнейшых прадпрыемстваў у галіне будоўлі.**

### Задача – захаваць і даць работу

Генрых Кутас спадзяецца, што "Забудова" будзе жыць:

– Нядаўна разам з гендырэктарам правялі сходы ў кожным працоўным калектыве. Сказалі, колькі мы павінны, колькі нам. Кіраўніцтва часта ездзіць у Мінск шукаць выйсце. Мяркую, што рашэнне прымуць на ўзроўні старшыні Мінаблвыканкама. Спадзяёмся, што прадпрыемства будзе жыць. Наша задача – захаваць холдынг, даць работнікам зарабіць. Не абяцаем ананасы, але на хлеб павінна хапіць.

Адзіны спосаб для выхаду з запазычанасці кіраўніцтва "Забудовы" бачыць у тым, каб улада іх падтрымала з выплатай запазычанасці.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ХАБАР

# Ветэрынараў падазраюць у атрыманні хабару

**СМАРГОНЬ. Следчы камітэт (СК) Беларусі ўзбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да службовых асоб раённай ветэрынарнай станцыі.**

Пра гэта 9 верасня паведаміла часопісу "Чалавек і закон" афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта краіны **Юлія Ганчарова**.

Кіраўнік установы – галоўны ветэрынарны доктар раёна, а таксама загадчыца лабараторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы падазраюцца ў атрыманні хабару.

Папярэдне ўстаноўлена, што службовыя асобы атрымалі ад прадстаўніка прыватнага гандлёвага прадпрыемства грашовыя сродкі за неажыццяўленне належнага ветэрынарнага кантролю за забоем жывёлы і рэалізацыяй мясной прадукцыі пакупнікам.

Згодна з дзеючымі ветэрынарна-санітарнымі правіламі, рэалізацыя жывёлы і прадукцыі жывёльнага паходжання пакупнікам можа адбывацца толькі ў выпадках забою жывёл ў забойным цэху.

Гэта патрабаванне неабходнае для бяспечнасці прадуктаў харчавання. У дадзеным выпадку хабар прызначаўся за магчымасць рэалізацыі мясной прадукцыі, выробленай не на вытворчых прадпрыемствах.

Крымінальная справа ўзбуджана па выніках аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, праведзеных сумесна з упраўленнем КДБ па Гродзенскай вобласці і ўпраўленнем па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ўпраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама.

Дзеянні службовых асоб кваліфікаваныя па другой частцы артыкула 430 Крымінальнага кодэкса РБ – "Атрыманне хабару групай асоб".

Злачынства караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

З падазраванымі працуюць следчыя.

Цяпер правяраецца інфармацыя аб сістэматычнасці атрымання незаконных грашовых узнагароджанняў затрыманымі асобамі.

**Юлія ГАНЧАРОВА, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта РБ, Сяргей ЗЯНЬКО, карэспандэнт часопіса "Чалавек і закон".**


Фота dutchfn.wordpress.com

**Прадпрымальнік плаціў хабар ветэрынарам, каб тыя не кантралявалі, як забіваюць жывёл на яго прадпрыемстве. Наступствы – на нашых сталах з'явілася б небяспечнае мяса.**

ПАДЗЯКА

## Дзякуй добрым медыкам з Вілейкі

**ВІЛЕЙКА. 31 ліпеня для мяне ў Нарочу выклікалі "хуткую дапамогу" з Вілейкі. Машына прыехала досыць хутка. Прыехаў доктар (прозвішча і імя яго не запомніў, бо не да таго мне было).**

Дыягназ ён ад мяне ўтаіў і прывёз у рэанімацыю. Здзівіла, што ў Вілейцы "хуткая дапамога" і рэанімацыя працуюць як адно падраздзяленне бальніцы. Лічу, што гэта добра.

У наступную ноч, з 1 на 2 жніўня, той жа доктар дзяжурыў у рэанімацыі. Клопатаў у яго і падначаленых ноччу хапала. Раніцай папрасіў, каб ён напісаў спіс начной каманды, пачынаючы з сябе. Але такі спіс я не атрымаў. Ён, можа, з-за сарамлівасці ці адсутнасці часу, яго не напісаў.

Мне падалося, што ў тую ноч начная змена ў рэанімацыі дзейнічала вельмі зладжана, адказна і аператыўна. Яна заслугоўвала пахвалы.

4 жніўня той жа самы доктар адправіў мяне ў аддзяленне кардыялогіі. Шкада, што яно знаходзіцца ў другім будынку і з рэанімацыі туды даводзіцца цяжкахворых вазіць на аўтамашыне. Я дзякую таму добраму доктару, які мяне выратаваў.

Адначасова хачу выказаць шчырую падзяку медыцынскім сёстрам аддзялення кардыялогіі. Асабліва хочацца падзякаваць старшай медсястры **Валянціне Анатолеўне Карыбе** і **Наталлі Мікалаеўне Парфяновіч**, якая аднойчы ноччу аказвала мне меддапамогу, зыходзячы з досведу і ўзяўшы на сябе ўсю адказнасць.

Ад сябе асабіста і іншых хворых дзякую за смачныя стравы – боршч і капусту (шчы). Іх я са смакам еў нават у рэанімацыі. Апроч таго, быў смачны чорны хлеб, лепшы, чым у Мінску.

**Сымон БАРЫС, журналіст, Мінск.**





НАВІНЫ

## У "Зубраняці" спаборнічаюць юныя выратавальнікі

**МЯДЗЕЛ.** У Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" 10 верасня прайшло адкрыццё рэспубліканскага злёту юных выратавальнікаў-пажарных.

У ім удзельнічаюць восем каманд. У кожнай – 24 чалавекі, паведамляе mchs.gov.by.

Яны будуць спаборнічаць у пажарнай эстафеце, пераадоленні паласы з перашкодамі, палявых вучэннях і мностве іншых відаў конкурснай праграмы.

Юныя выратавальнікі будуць у "Зубраняці" да 22 верасня.

## Паглядзі, чаму навучаць

**ВІЛЕЙКА.** У выставачнай зале імя Сіліновіча музея праходзіць выстава творчых прац педагогаў і навучэнцаў раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

На ёй – розныя мадэлі, узоры роспісу на шкле, выцінанкі, саломапляценне, іншыя віды дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Усяму гэтаму можна навучыцца ў гуртках цэнтра.

Працаваць выстава будзе да 15 верасня.

**Аддзел інфармацыі.**



© "Рэгіянальная газета"
Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

● СПАЖЫВЕЦ

# Як мяняліся цэны на пральныя машыны

**МАЛАДЗЕЧНА. У 1997 годзе за пральную машыну-аўтамат трэба было аддаць пяцімесячны сярэдні заробак, а цяпер хопіць аднаго.**

Як змянілася сітуацыя за 15 год?

**1997 год.** Пральная машына ў сярэднім каштавала 400 долараў. На той момант, гэта – пяцімесячны сярэдні заробак, бо на той час ён складаў па краіне 70 долараў (2 270 110 рублёў).

Звычайны набор рэжымаў быў наступны: кіпячэнне, бавоўна, далікатнае мыццё, шэрсць.

Машына была разлічаная на 5 кілаграмаў бялізны і рабіла 400 абаротаў у хвіліну.

**2002 год.** Сярэдняя цана добрай машыны была 465 долараў, а сярэдні заробак – 100 долараў (189 232 рублі).

У пральных машынах таго часу было ўжо больш рэжымаў. Дадалося ручное мыццё, хуткае – вымыць адзенне стала магчыма за 35 хвілін, а таксама выбар рэжыму тэмпературы. Загрузка такой машыны разлічаная на 7 кілаграмаў і тысячу абаротаў.

**2014 год.** Сёння цэны на пральныя машыны вагаюцца ад 4 да 8 мільёнаў рублёў. Калі выбіраць сярэднюю, то на машыну давядзецца патраціць адзін сярэдні месячны заробак. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі, ён складае 629 долараў (6 455 276 рублёў).

Цяпер машыны сталі яшчэ больш "разумнымі". З'явіўся новы рэжым – серабро. Барабаны машын пакрываюць часцінкамі серабра, якія пры кантакце з вадой і адзеннем даюць антыбактэрыяльны эфект. Такі рэжым звычайна рэкамендуюць для мыцця дзіцячага адзення.

Да таго ж машына сама можа "расказаць" гаспадару пра прычыну паломкі. Пры пашкоджанні шлангаў ці дзверцаў на экране машыны з'явіцца адпаведнае паведамленне.

**Вольга ЮРКЕВІЧ,**
**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

● ГАСПАДАРКА

# Калі пройдуць кірмашы ў рэгіёне

**Пачнуцца яны ад 13 верасня. Правядуць іх па суботах. Апошнія кірмашы пройдуць у канцы лістапада.**

**АСТРАВЕЦ.** У Астраўцы плануюць правесці кірмашы ў канцы кастрычніка. Дакладная дата пакуль невядомая. Аб гэтым паведамілі ў райвыканкаме.

**АШМЯНЫ.** Па паведамленні райвыканкама, кірмаш ў Ашмянах пройдзе 27 верасня.

**ВІЛЕЙКА.** 4 кастрычніка, у суботу, на плошчы ў Вілейцы пройдзе рэгіянальны кірмаш з удзелам Вілейскага, Валожынскага, Лагойскага, Маладзечанскага, Мядзельскага раёнаў.

Раённыя кірмашы пачнуцца ад 13 верасня. Яны будуць кожную суботу да канца месяца.

У кастрычніку два дні – 18 і 25. У лістападзе тры выхадныя падрад – 1, 8 і 15.

Аб гэтым расказала **Аксана Сопрых**, загадчыца сектара гандлю аддзела эканомікі.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Рэгіянальны кірмаш у Маладзечне будзе 11 кастрычніка. У ім паўдзельнічаюць Вілейскі, Валожынскі, Лагойскі, Мядзельскі, Маладзечанскі раёны.

У верасні кірмашы пройдуць кожную суботу – 13, 20 і 27 верасня. У кастрычніку – 18 і 25. Апошнія восеньскія кірмашы будуць 1 і 8 лістапада.

Аб гэтым паведаміла **Наталля Раманюк**, галоўны спецыяліст, дзяржаўны інспектар кіравання сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзеле кірмашы пачнуцца ад 13 і да 27 верасня. У кастрычніку яны будуць у канцы месяца – 18 і 25.

У лістападзе іх наладзяць у суботы – 1, 8 і 15.

Аб гэтым паведаміла **Ганна Давідовіч**, галоўны спецыяліст арганізацыі вытворчасці кіравання сельскай гаспадаркі і харчавання.

**СМАРГОНЬ.** У Смаргоні плануюць правесці кірмашы ў канцы кастрычніка. Аб гэтым паведаміла **Ірына Галдыцкая**, начальнік аддзела эканомікі райвыканкама.

**Галіна СІНІЦА.**

| Курсы валют НБ РБ | 4.09 руб. | 11.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 450,00 | **10 480,00** |
| Еўра | 13 720,00 | **13 550,00** |
| Злоты | 3 278,74 | **3 220,45** |
| Літ | 3 979,44 | **3 924,80** |
| Расійскі рубель | 280,00 | **282,00** |
| Грыўня | 838,60 | **812,40** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13700/13800 | **13450/13560** |
| Долар ЗША | 10430/10480 | **10450/10500** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.09 Цана руб. | 10.09 Цана руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 131400 | **131400** |
| Сасіскі, 1 кг | 50900 | **50900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31950 | **31900** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 90000 | **-** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 28000 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105800 | **99800** |
| Рыс, 0,9 кг | 14200 | **14200** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 13650 | **13800** |
| Маянэз, 200 г | 5650 | **5650** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9500 | **9500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5000 | **4500** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Буракі, 1 кг | 4900 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 48000 | **48000** |
| Апельсіны, 1 кг | 17500 | **17500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27900 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 8900 | **8900** |
| Агуркі, 1 кг | 12500 | **12500** |
| Кавун, 1 кг | 5500 | **4500** |
| Дыня, 1 кг | 11500 | **12000** |
| Вінаград, 1 кг | 22000 | **18500** |
| Бананы, 1 кг | 11900 | **13800** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 21900 | **21500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4900 | **4800** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 23000 | **20000** |

**ЛІЧБА НУМАРА**

# 194

Стольtotkі пар узялі шлюб у Маладзечанскім раёне сёлета ў жніўні

# Мяняюцца тарыфы на газ

Ад 1 верасня выраслі тарыфы на газ.

Тарыф на прыродны газ з устаноўленымі прыборамі ўліку расходу газу і пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў (катлоў) складае 2131,1 рубля за 1 кубічны метр.

Без індывідуальных прыбораў уліку расходу газу пры наяўнасці ў кватэры газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння – 17000,0 рубля з аднаго чалавека.

З усталяванымі прыборамі ўліку расходу газу і пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў (катлоў) у ацяпляльны перыяд тарыф складае 582,2 рубля, летні перыяд – 2131,1 рубля за 1 кубічны метр.

Газ звадкаваны ў балонах вагой 21 кілаграм у межах нормаў спажывання – 85 тысяч рублёў за 1 балон, звыш нормы спажывання – 158 650 рублёў за 1 балон.

Норма спажывання складае 5 балонаў у год на аднаго чалавека (рашэнне Мінскага аблвыканкама ад 10.07.2009г. №671 "Аб устанаўленні нормаў спажывання газу для насельніцтва").

Даведкі па тэлефонах **129**, (8-0176) **76-05-14**.

Маладзечанскае міжраённае вытворчае ўпраўленне газавай гаспадаркі "Маладзечнаміжрайгаз". УНП 100008077

ПРАФЕСІІ

# Дзень следчага пачынаецца з вечара

**МАЛАДЗЕЧНА. 12 верасня Следчаму камітэту – тры гады. Пра працу, адпачынак, іншае распавядае старшы следчы Юры Багушэвіч.**

У жонкі Юрыя Багушэвіча бацька **Барыс Жалабковіч,** аператыўны работнік у адстаўцы. Таму **Анастасія** звыклая да начных дзяжурстваў, частай адсутнасці мужа дома. А вось 5-гадовы сын **Стас** ніяк не можа зразумець, дзе працуе яго тата.

– Раней, калі я насіў міліцэйскую форму, усё было зразумела, – расказвае старшы следчы. – Цяпер форма іншая, таму часам пытаецца, кім я працую. Сынам больш займаецца жонка. Цяпер ён ходзіць у школу развіцця дзяцей. Плануем аддаць у спартыўную секцыю. Аднак і ў мяне хапае часу на яго выхаванне.

У маладзечанскім аддзяленні Следчага камітэта працуюць дзве сямейныя пары – **Аляксандр** і **Кацярына Крукоўскія**. Ён – следчы ўнутраных спраў, яна – старшы следчы. А яшчэ **Генадзь Козел**, намеснік начальніка другога аддзялення, і **Юлія Козел**, якая цяпер у дэкрэтным адпачынку.


Фота lawmax.ru.

Прафесія следчага не заўсёды такая, якой яе паказваюць у кіно.

### Не паспеў на футбол – дрэнна размеркаваў дзень

Начальства Следчага камітэта ўважліва ставіцца да псіхалагічнага і фізічнага здароўя сваіх супрацоўнікаў. Два разы на тыдзень усе ахвотныя гуляюць у футбол, ходзяць у басейн у Лядовы палац, у трэнажорную залу.

– Наш начальнік РАСК **Пётр Варачкоў** гаворыць, – усміхаецца Юры Багушэвіч, – калі ты не паспяваеш на футбол, значыць, дрэнна размеркаваў свой дзень!

### Жанчыны таксама аглядаюць трупы

Цяпер у райаддзеле СК працуюць 56 чалавек. Усе спецыялісты маюць вышэйшую юрыдычную адукацыю. Па размеркаванні прыходзяць толькі з Акадэміі МУС. Маладых спецыялістаў замацоўваюць за старэйшымі следчымі.

– Кожны чацвер Пётр Пятровіч праводзіць сход, – расказвае Юры Багушэвіч. – На ім абмяркоўваюць праблемы, цяжкасці, пытанні, якія ўзнікаюць у маладых спецыялістаў.

У СК працуюць і жанчыны. Іх амаль палова ад усяго калектыву. І яны выязджаюць на здарэнні, аглядаюць трупы.

### Як праходзіць дзень у Следчым камітэце

Дзень Юрыя Багушэвіча, як і іншых следчых, пачынаецца з вечара. Калі трэба планаваць наступны дзень, тэлефанаваць людзям, якіх трэба выклікаць на допыт.

У камітэце з мінулага года тры аддзяленні. Кожнае з іх мае сваю спецыфіку. Першае даследуе ДТЗ, злачынствы вялікай цяжкасці (забойствы, згвалтаванні, разбоі). Другое – сярэдняй ступені цяжкасці, напрыклад, крадзяжы. Трэцяе займаецца злачынствамі, якія невядома хто здзейсніў.

У кожнага свая нагрузка. У следчага трэцяга аддзялення каля 20 спраў, другога аддзялення – сем-восем, першага – адна-дзве.

### Пра справу са "скакунамі"

Раскрыццё справы з пашкоджанымі 35 аўто ў Маладзечне магло зацягнуцца.

– На машынах былі сляды крыві, – адзначае старшы следчы. – Узоры яе адправілі на экспертызу. Яе робяць тыдзень. Калі б генатыпы злачынцаў былі ў базе міліцыі, знайшлі б хутка. Але маладзёны несудзімыя, пра іх звестак няма. Шукалі б, пакуль у іншым злачынстве яны не "выплылі", ці не трапілі на генатыпаскапічны ўлік.

Ні на адной з пашкоджаных машын не было відэарэгістратара. На гарадскіх камерах бачныя толькі постаці хлопцаў.

Знайшлі хуліганаў па інфармацыі міліцыянераў. Яны прызналіся, але гэтага недастаткова, праводзяць дадатковыя экспертызы.

**Галіна СІНІЦА.**
**Здымкі супрацоўнікаў маладзечанскага РАСК глядзіце на сайце**




**Даведка "РГ". Следчы камітэт** утварыўся 12 верасня 2011 года. Пачаў сваю дзейнасць 1 студзеня 2012 года.

ФІНАНСЫ

## Налічылі 12 мільёнаў падатку за валюту

**ВІЛЕЙКА. Жыхар Вілейскага раёна на працягу двух гадоў купіў каля 36 тысяч долараў. За гэта трапіў у поле зроку падатковай інспекцыі.**

Высветлілася, што яго выдаткі перавышаюць даходы больш чым на 100 мільёнаў рублёў. Пра гэта паведаміла начальнік упраўлення падаткаабкладання фізічных асоб інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Мінскай вобласці **Марына Казак**.

Цікавасць падатковых органаў да аднаго з жыхароў Вілейскага раёна выклікала сума валюты, якую ён набыў у 2012-2013 гадах.

Раённая падатковая інспекцыя запатрабавала ў віляйчаніна – на той момант беспрацоўнага – дэкларацыю аб даходах і маёмасці. Аказалася, што ён выдаткаваў на 103,5 мільёна рублёў больш, чым афіцыйна атрымаў.

Прад'яўлены да выплаты падаходны падатак – 12 мільёнаў рублёў – мужчына заплаціў у поўным аб'ёме.

**Паводле finance.tut.by.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У таксіста ўкралі грошы падчас паездкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 7 верасня, у мужчыны, які працуе таксістам, укралі больш за 8 мільёнаў рублёў.**

– Здарылася гэта ноччу, – кажа старшы следчы Следчага камітэта Маладзечна **Юры Багушэвіч**. – Нехта з пасажыраў выцягнуў сумку з бардачка машыны.

Таксіст заўважыў згубу толькі а шостай гадзіне раніцы, калі заканчваў змену. У сумцы быў заробак за цэлы тыдзень, а таксама дакументы на машыну.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СЛУЖБА 101

## На пажары выратавалі мужчыну

**ВІЛЕЙКА. Паведамленне аб пажары ў вёсцы Любань паступіла на "101" каля сямі гадзін вечара 7 верасня. У службу выратавання патэлефанавала мясцовая жыхарка.**

Калі выратавальнікі прыбылі на месца, з-пад даху двухпавярховага будынка ішоў дым. Супрацоўнікі МНС па лесвіцы праз акно другога паверха выратавалі 40-гадовага мужчыну, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзмітры Кляшняк**.

У стане моцнага алкагольнага атручэння вяскоўца шпіталізавалі. Ён не пацярпеў.

У выніку гарэння смецця закураныя сцены і пашкоджаная падлога ў памяшканні будынка, які належыць таварыству "Новая Любанія". Цагляны будынак не эксплуатаваўся з лютага: тады тут таксама адбыўся пажар.

У ходзе высвятлення абставінаў стала вядома, што мужчына ў будынку піў. Са слоў мясцовых жыхароў, напярэдадні пажару ён быў п'яны.

Мужчына жыве ў суседняй вёсцы. Але ўжо некалькі дзён знайшоў прытулак у гэтым будынку.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## "Скакуны" разбілі аўто намесніка начальніка міліцыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Сляды ад "д'ябальскіх танцаў" на машыне супрацоўніка міліцыі дапамаглі хутчэй раскрыць злачынства.**

**Уладзімір Васількоў**, намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні, у гэты час якраз быў у адпачынку. І пра тое, што трапіў у лік пацярпелых, даведаўся раніцай ад жонкі. Тая села ў машыну і раптам зразумела, што не ўлазіць. Галава ўпіраецца ў дах.

Ён лічыць, што нічога дзіўнага няма:

– Хлопцы не выбіралі машыны, на якіх яны ўстроілі свае "д'ябальскія танцы". Таму сярод іх аказаўся і мой "Форд".

Аўто стаяла воддаль ад дома, таму дзіўных гукаў не было чутна.

– Адна з жанчын у нашым двары пасля гаварыла, што чула нейкія гукі, – гаворыць Уладзімір Уладзіміравіч. – Не пабаялася ноччу выйсці на вуліцу. Бачыла нейкіх хлопцаў, але тыя пабеглі. І яна міліцыю не выклікала. Так чамусьці зрабілі ўсе. Хаця маглі зменшыць маштабы злачынства.

Уладзімір Васількоў мяркуе, што іх маглі б затрымаць у тую ж самую ноч, калі б хоць адзін чалавек патэлефанаваў у міліцыю. Ноччу не шмат людзей шпацыруе па вуліцы, тым больш, з крывёю на руках.

Дарэчы, кроў хуліганаў засталася на машыне міліцыянера. А побач былі добра бачныя сляды.

### За рамонт давядзецца аддаць каля 200 долараў

На аўто была страхоўка "Белдзяржстраху". Пакуль рамантаваць прыйдзецца за ўласныя сродкі. Магчыма, калі суд прызнае віну маладых людзей, то грошы на рамонт удасца атрымаць.

– Аўтамабілі, якія стаялі побач, таксама былі пашкоджаныя, – дадае Уладзімір Васількоў. – Але не так моцна. Відаць, па іх пераскоквалі з аднаго на другі.

Пакуль уласнік "Форда" ездзіць на пашкоджанай машыне.

– Калі глядзець збоку, то яна такая ж самая, як і іншыя. Прагнуты дах адразу і не ўбачыш.

Гэта далёка не самае страшнае, што магло адбыцца, лічыць Уладзімір Васількоў.

Хуліганы пашкодзілі 35 машын у цэнтры Маладзечна ноччу 25 жніўня. Падазроных затрымалі праз пяць дзён.

**Галіна СІНІЦА.**

## З-за сваркі падпаліў сенасховішча

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам 5 верасня ў вёсцы Семернікі Градоцкага сельсавета згарэла будыніна, дзе ляжала сена. Яго падпаліў знаёмы гаспадыні.**

Са слоў жанчыны, напярэдадні падпалу ў яе адбыўся канфлікт з сужыцелем. На фоне гэтага канфлікту, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, сужыцель стаў кідаць запалкі ў сена. Самастойна патушыць узгаранне не ўдалося, давялося выклікаць выратавальнікаў.

**Ксенія ТАРАТУТА,**
**інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

ГАСПАДАРКА

# Як зрабіць звычайную лямпачку "вечнай"

## Чытач "РГ" прапанаваў спосаб энергазберажэння

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым нумары "РГ" пісала, дзе ў Маладзечне стаяць прыборы энергазберажэння і колькі можна зэканоміць пры іх дапамозе электраэнергіі. Чытач Леанід Русак даслаў свой спосаб зберажэння энергіі.**

Ён прапануе звычайныя лямпачкі напальвання ўключаць праз паўправадніковы дыёд сярэдняй магутнасці Д226 і яму аналагічны на дапушчальны ток не менш за 0,3 А. Размяшчаць яго ў мантажнай каробцы выключальніка асвятлення.

Калі дыёд уключыць паслядоўна, на лямпачку будзе падавацца прыкладна палова напружання – 106 В. Яна будзе свяціць напалову напальвання.

**Зберажэ 50% электраэнергіі ў параўнанні са звыклым рэжымам.**

Калі дыёд уключыць паралельна выключальніку, у становішчы "выключана" будзе вышэйапісаны рэжым энергазберажэння. А пры становішчы "ўключана" – лямпачка будзе гарэць, як звычайная.

Такое ўключэнне дыёда выгадна там, дзе неабходна, каб штучнае асвятленне было пастаянным. Напрыклад, на калідорах шматпавярховых дамоў.

Немалаважна і тое, што як пры паслядоўным, так і пры паралельным уключэнні дыёда лямпачка становіцца "вечнай". Яна ніколі не перагарыць пры напружанні, якое складае палову намінальнага. Праверана пры шматгадовым выкарыстанні.




Такі спосаб зберажэння электраэнергіі патлумачыў **Уладзімір Камяк**, галоўны інжынер "Камунальніка":

– Гэта старая схема зберажэння электраэнергіі. Напрыклад, такія стаяць у старых ліфтах. Палову энергіі можна зберагчы. Аднак лямпачка пры гэтым міргае, гарыць жоўтым святлом. Гэта непрыемна для вачэй. Таму такі спосаб энергазберажэння сёння не выкарыстоўваюць.

**Галіна СІНІЦА.**

ЭКАЛОГІЯ

# Адкрываюць экалагічную анлайн-школу

**Дыстанцыйныя курсы для ахвотных весці экалагічны лад жыцця адкрывае Цэнтр экалагічных рашэнняў у Мінску.**

Удзел у анлайн-школе дасць магчымасць атрымаць практычныя веды пра тое, як арганізаваць свой лад з карысцю для сябе і сваёй сям'і, для здароўя і прыроды.

**Дыстанцыйны курс разлічаны на сем тыдняў. Запатрабуе ад удзельнікаў усяго дзве-тры гадзіны часу на тыдзень.**

Удзельнікі змогуць самастойна планаваць навучальны працэс, прызначаць ўрокі ў зручны час. Дзе вы жывяце, няважна. Для ўдзелу ў праграме дастаткова месца жаданне, трохі вольнага часу і доступ у інтэрнэт.

Складаецца курс з тэарэтычных лекцый, практычных вебінараў, цікавых заданняў. Яны будуць тычыцца такіх тэм, як зялёнае спажыванне, адходы, хімікаты ў таварах спажывання, роварны рух, хатняе энергазберажэнне.

### Пазбавіцца небяспекі ад цацак і сосак

Першы курс школы называецца "Экалагічна дружалюбны лад жыцця для маладой мамы". Аднак удзельнічаць у ім могуць усе ахвотныя, распавяла кіраўнік анлайн-школы, супрацоўніца праграмы па экалагічна дружалюбным ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў **Дар'я Чумакова**:

– Назва, хутчэй, сімвалічная. Звязаная з тым, што менавіта дзеці, маладыя мамы і цяжарныя найбольш схільныя да шкоднага ўздзеяння любых забруджванняў. Пры гэтым небяспека можа хавацца ў, здавалася б, зусім бяскрыўдных рэчах: у дзіцячых цацках, бутэлечках і сосках, харчаванні і касметыцы. Аднак мы запрашаем далучыцца да школы ўсіх, хто цікавіцца "зялёным" ладам жыцця і гатовыя нешта мяняць у сваіх звычках – для здароўя свайго і для прыроды.

Каб паступіць у экалагічную анлайн-школу, дастаткова прайсці рэгістрацыю на сайце study.ecoidea.by. Першыя заданні з'явіцца 15 верасня – гэта афіцыйны старт школы.

Удзельнікі першага набору праходзяць навучанне бясплатна.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ". Вебінар** – гэта семінар, які праводзіцца анлайн, праз інтэрнэт. Вядучы і ўдзельнікі ў любым пункце свету знаходзяцца за сваімі камп'ютарамі.

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Злавілі са спайсам – сказаў, што шалфей

**ВАЛОЖЫН. 22-гадовы Дзяніс прыйшоў са спайсам у ДАІ, дзе афармлялі пратаколы за тое, што ездзіў без правоў.**

Па сукупнасці прыгавораў валожынец атрымаў пакаранне – дзевяць гадоў строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Вечарам 26 лютага малады чалавек набыў каля станцыі метро "Каменная Горка" 0,3 грама асабліва небяспечнага псіхатропнага рэчыва. Моладзь называе яго "спайс", ці "хімка".

Днём на наступны дзень двое іншых валожынцаў праходзілі прызыўную камісію ў ваенкамаце. Хлопцы захацелі купіць спайс. Пазванілі Дзянісу, той адказаў, што прадасць наркотык за сто тысяч рублёў.

Маладыя людзі сустрэліся каля банкамата на вуліцы Партызанскай. Пры пацісканні рукі Дзяніс перадаў 0,2 грама "хімкі" ў пакецiку аднаму са знаёмых. Заплаціць грошы не паспелі: Дзянісу трэба было тэрмінова ў ДАІ. Пакупнікі чакалі яго ў парку.

У гэты час іх затрымала міліцыя.

### Забыўся, што дома наркотыкі

Сам Дзяніс гэтым часам быў у аддзеле валожынскай дзяржаўтаінспекцыі. Інспектар складаў пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях за тое, што маладзён ездзіў, не маючы правоў кіравання.

У гэты час у кабінет зайшоў начальнік крымінальнага вышуку і спытаўся ў Дзяніса, ці мае той забароненыя рэчывы. Хлопец адказаў, што нейкае мае, але не ведае, ці наркотык гэта. Нібыта трава, якую ён пры сабе мае – гэта шалфей, які ён набыў у аптэцы.

У той жа дзень міліцыя правяла вобыск у кватэры валадзёна. На антрэсолі ў кухні знайшлі марыхуану. Дзяніс нібы набыў яе паўгода таму на рынку "Ждановічы" і забыўся пра гэта.

### Падрабіў дазвол кіраваць аўто

Летась Дзяніса затрымалі работнікі іўеўскай міліцыі за кіраванне аўтамабілем у п'яным стане. Яму выдалі часовы дазвол на кіраванне на некалькі месяцаў. Але малады чалавек вырашыў яго самастойна працягнуць і падрабіў запіс, паводле якога ён мог бы ездзіць яшчэ год. Падроблены дакумент ён даў дзяржаўтаінспектарам, калі яны разбіралі аварыю з яго ўдзелам.

Суд прызнаў яго вінаватым у незаконным набыцці, захоўванні і перавозцы наркотыку; незаконным збыце псіхатропных рэчываў; падробцы афіцыйнага дакумента.

Дзяніс атрымаў ужо тры судзімасці. У 16 год атрымаў два гады абмежавання свабоды за крадзеж з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі. Праз год яго зноў судзілі за крадзеж. У 18 год хлопца судзілі за ўхіленне ад адбывання пакарання.

**Андрэй ЖУКОЎСКІ,**
**памочнік пракурора Валожынскага раёна.**

СПАЖЫВЕЦ

# Выйдуць чатыры новыя аўтамагазіны

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтапарк аўтабазы папоўніўся чатырма новымі аўтамагазінамі.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў дырэктар аўтабазы **Валеры Мандрык:**

– Два новыя аўтафургоны мы набылі раней, а два – на мінулым тыдні. Гэтыя фургоны цалкам прыстасаваныя для выязнога гандлю. У іх паліцы і вітрыны спецыяльна зробленыя так, каб пры перавозцы прадукты не падалі.

У кожным аўтафургоне па тры халадзільнікі. Цяпер у самыя далёкія вёскі замарожаныя прадукты даставяць у найлепшым выглядзе. Валеры Мандрык мяркуе, што набудуць яшчэ два новыя фургоны.

Што датычыцца маршрутаў, то іх па-ранейшаму дзевяць. Аўталаўкі абслугоўваюць вёскі тры разы на тыдзень.

**Наталля ТУР.**

ЛІТАРАТУРА

# Паэт з Мядзела атрымаў "Залаты купідон"

**МЯДЗЕЛ. На Дні беларускага пісьменства ў Заслаўі 7 верасня ўзнагароджвалі мядзяльчаніна Аляксандра Быкава.**

Ён перамог у рэспубліканскім літаратурным конкурсе "Лепшы твор 2013 года" ў галіне паэзіі. Адзначаны паэт за кнігу "За межы круга".

Атрымаў ён Дыплом першай ступені і ганаровы знак-сімвал "Залаты купідон".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ

# У Іркуцку выдалі кнігу пра салдат, што ваявалі на Нарачы

**МЯДЗЕЛ. У далёкім Іркуцку цікавяцца падзеямі Нарачанскай аперацыі 1916 года. Там выдалі кнігу "Іркуцк і іркуцяне ў Першай сусветнай вайне".**

Яе тыраж – 2000 экзэмпляраў. Падзеям на мядзельскай зямлі прысвечаная пятая частка кнігі.

Ідэя манаграфіі ўзнікла два гады таму, распавёў навуковы рэдактар кнігі, доктар гістарычных навук, прафесар Іркуцкага ўніверсітэта **Юры Пятрушын**.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Юры Пятрушын расказвае пра кнігу "Іркуцк і іркуцяне ў Першай сусветнай вайне".

– Хацелі выпусціць яе да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны. У Іркуцку моцная гістарычная школа. Аб'ядналі намаганні навукоўцаў. Паслалі ганцоў у расійскі ваенна-гістарычны архіў. Знайшлі імёны ўсіх георгіеўскіх кавалераў-іркуцян – 202 чалавекі.

Кніга стваралася пры падтрымцы клуба "Губерня" і фонду "Полк, які вярнуўся". Першая яе частка называецца "Фронт". Яна прысвечана баявым дзеянням сібірскіх стралковых дывізій на тэрыторыі Беларусі і Усходняй Прусіі. А другая – "Тыл". Расказвае пра тылавы Іркуцк, жыццё гараджан і ваеннапалонных.

– Падзеям Нарачанскай аперацыі прысвечаная пятая частка кнігі, – дзеліцца Юры Пятрушын. – У ёй аналізуем спробу наступлення рускіх войскаў. У асноўным наступалі сібірскія дывізіі, узмоцненыя данцамі, казакамі...

### Пра германскую вайну гаварылі ціхенька

Тэма Першай сусветнай для Юрыя Пятрушына не чужая – на гэтай вайне ваяваў дзядуля.

– Маці расказвала, як у савецкі час збіраліся па два-тры франтавікі, якія прыйшлі з вайны за тысячы вёрстаў. Старыя выпіваюць сотачку, ціхенька пагавораць, як яны казалі, пра германскую вайну. Узнагарод ніхто не насіў: савецкая ўлада не дазваляла.

У кнігах шмат успамінаў удзельнікаў той вайны, запісаных яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя.

**– Галоўная ідэя кнігі – паказаць не ўладу, не генералаў, а простага салдата і камандзіра. Тых, хто ваяваў, стаяў у акопах, і, урэшце, паміраў. Як яны ваявалі, як жылі, якія лісты атрымлівалі, як думалі пра сваю Марфу. І гэта ўдалося.**

Улетку дэлегацыя з Іркуцка пабывала на Мядзельшчыне. Тады пакінулі на памяць першыя экзэмпляры кнігі. Абяцалі дасласць яшчэ, як надрукуюць увесь тыраж. У электронным выглядзе кнігу можна знайсці на сайце polk.guberniya38.ru.

Алесь ВЫСОЦКІ.


Фота Ігара МАРОЗА.

Чатыры дні ля вёскі Заспарня Асіпавіцкага сельсавета праходзілі здымкі тэлевізійнага фільма.

КІНО

# У фільме Вілейшчына сыдзе за Чэхію

**ВІЛЕЙКА. Сотня чалавек масоўкі ў ваеннай форме, даўнейшыя танкі, грузавікі і матацыклы. Усё гэта можна было пабачыць ля вёскі Заспарня Асіпавіцкага сельсавета.**

Тут ад 1 да 4 верасня праходзілі здымкі тэлевізійнага фільма. Сцэнарый яго створаны па творы "Неапалімая купіна" пісьменніка Барыса Васільева – найбольш вядомы ён як аўтар аповесці "А світанні тут ціхія".

Шасцісерыйны фільм – сумесны расійска-беларускі праект. Здымкі праходзяць у Расіі, Латвіі, Беларусі.

На Вілейшчыне здымалі падзеі мая 1945 года на тэрыторыі Чэхіі. Атрад нямецкіх войскаў імкнецца перабрацца праз раку і здацца амерыканцам. У выніку брод становіцца месцам сутыкнення нямецкіх і савецкіх войскаў.

**– Чаму выбралі Вілейшчыну для здымак?** – запытаў у намесніка дырэктара здымачнай групы кінавытворчага прадпрыемства "Медыяпроф продакшн" **Паўла Піскунова**.

– Мясцовасць ідэальна падыходзіць для здымак тых сцэн, што прапісаны ў сцэнарыі. Прыгожы еўрапейскі ландшафт, рэчка, брод. Гэта асноўнае. Таксама вывучылі інфраструктуру горада. У Вілейцы добрая гасцініца, дзе можна пасяліць здымачную групу і артыстаў. Побач аграсядзібы, дзе таксама можна людзей рассяліць.

### Для масоўкі патрэбныя былі рэканструктары

На месца прыязджала нямала людзей – паглядзець, як ідуць здымкі. Асабліва ў апошні дзень, калі былі піратэхнічныя эфекты, страляніна. Многія фатаграфаваліся ля тэхнікі. Тут былі чатыры танкі (пароўну савецкіх і нямецкіх). А таксама грузавікі, нямецкія матацыклы. У масоўцы занялі да ста чалавек. Мелі яны ля 90 адзінак зброі.

– Падобнага маштабу здымкі цяпер рэдкія з-за дарагавізны, – зазначае Павел Піскуноў.

**– А ў масоўцы мясцовыя людзі ці зняліся?**

– Не. Нам былі патрэбныя рэканструктары: людзі, якія маюць гістарычныя касцюмы, могуць здымацца ў вобразе байца савецкай і нямецкай армій.

**– Чым запомняцца здымкі на Вілейшчыне?**

– Мяркую, для большасці членаў здымачнай групы – зручнымі ўмовамі працы і прыгожай прыродай. А для адміністрацыі – вялікай дапамогай з боку мясцовай улады, кіраўнікоў прадпрыемстваў і асобных людзей.

Да каго ні звярталіся, аператыўна дапамагалі. Дзякуй за садзейнічанне і разуменне. Здымкі наведала кіраўніцтва кінакампаніі. Так што, магчыма, якую-небудзь здымачную групу таксама Вілейшчына зацікавіць. Тым больш, многія з тых, хто здымаўся на Украіне, цяпер едуць у Беларусь.

### Пра што кіно?

Апавяданне "Неапалімая купіна" напісанае ў 1986 годзе. Яно пра жанчыну, лёс якой апаліла вайна. Гераіня апавядання Антаніна Іваньшына на вайне была параненая, кантужаная. Яна вяртаецца з фронту і спрабуе пачаць мірнае жыццё.

У галоўнай ролі – расійская актрыса **Клаўдзія Коршунава.**

**Паглядзець кіно можна будзе праз некалькі месяцаў. Тэлефільм плануюць паказаць напрыканцы зімы ці на пачатку вясны наступнага года ці на "Першым" тэлеканале, ці на "Расіі-1".**


Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail: alvy@tut.by

КНІГІ

# Выйшаў літаратурны зборнік, прысвечаны Заслаўю

**МАЛАДЗЕЧНА. Кніга "Горад майго сэрца" выйшла да Дня беларускага пісьменства, які прайшоў 6 верасня ў Заслаўі.**

Прэзентацыя кнігі адбылася ў бібліятэцы "Верасок" 5 верасня.

Асноўную частку падрыхтоўчай працы зрабілі краязнаўца з Маладзечна **Міхась Казлоўскі** і **Анатоль Зэкаў**, які з'яўляецца рэдактарам кнігі. У ёй змешчаны творы аўтараў, лёс якіх звязаны з Заслаўем.

Серыя "Беларусь літаратурная" была заснавана ў 2003 годзе. Ужо выйшлі кнігі: "Я тут бачу свой край...: Маладзечаншчына літаратурная", "Люблю наш край...: Валожыншчына літаратурная" і іншыя.

Вольга ЮРКЕВІЧ.

ТЭАТР

# Тэатр рыхтуе прэм'еру пра цікавае становішча

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 верасня Мінскі абласны драматычны тэатр пачынае свой чарговы, ужо 24, тэатральны сезон.**

Традыцыйна яго распачынае спектакль "Камедыя" па п'есе **Уладзіміра Рудава**, якую ён напісаў па творах **К. Марашэўскага** і **Ф. Аляхновіча**. Гэты сцэнічны доўгажыхар нязменна прыцягвае гледачоў народным гумарам.

Да адкрыцця сезона тэатр дорыць прэм'еру: 24 і 30 верасня МАДТ дае спектакль "Афінскія вечары", пастаўлены па адной п'есе драматурга **Пятра Гладзіліна.**

### Сям'я за "фасадам"

Інтэлігентная маскоўская сям'я для іншых мае прыстойны "фасад". Але блізкія людзі даўно ачужэлі адзін аднаму.

У "высакародным сямействе" наспявае скандал: высвятляецца, што юная дачка-піяністка Наташачка (сцэнічны дэбют артысткі **Аляксандры Грасевіч**) чакае дзіця ад каханага Антона (выконвае артыст **Аляксандр Каласніцын**).

Пра цікавае становішча яна не рашаецца сказаць бацькам. Маме, Людміле Сяргееўне (выконвае майстар сцэны **Ірына Камышава**), яшчэ б нічога. Асабліва баіцца раззлаваць строгага бацьку, Барыса Алегавіча (выконваюць майстры сцэны **Сяргей Карзей** і **Аляксандр Пашкевіч**).

Звязвае абарваныя ніткі цеплыні і разумення бабуля Ганна Паўлаўна Растапчына (выконваюць артыстка вышэйшай катэгорыі **Эма Ларыёнава** і майстар сцэны **Алена Рахмангулава**). Бабуля распавядае пра некаторыя моманты багемнага жыцця часоў яе маладосці ў дарэвалюцыйным Петраградзе. Яна паставіць на вушы чапурыстых дом і "разруліць" кульмінацыю.

### Будзе сустрэча з артыстамі

Паставіў спектакль заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржпрэміі Беларусі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў **Валеры Анісенка**, які цяпер кіруе Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатрам імя Якуба Коласа ў Віцебску.

Па яго ініцыятыве пасля прэм'еры гледачоў чакае сустрэча з удзельнікамі пастановачнай групы і артыстамі, занятымі ў "Афінскіх вечарах".

Аляксандр ПЫЦЬКО, кіраўнік літаратурнай часткі Мінскага абласнога драмтэатра.



Фота Наталі ТУР.

У адным з двароў Маладзечна па Вялікім Гасцінцы. Уважліва прыглядайцеся да свайго дзіцяці. Магчыма, сённяшнія забавы – прыкмета будучай геніяльнасці.

АДУКАЦЫЯ

# Дзіця не геній? Вінаватыя толькі бацькі

**МАЛАДЗЕЧНА. Як вызначыць, што у вас у сям'і расце вундэркінд? Якое дзіця можна лічыць вундэркіндам? І як бацькам паводзіць сябе з дзіва-дзіцем паспрабуем адказаць у гэтым артыкуле.**

Усе дзеці таленавітыя – гэта ні для каго не сакрэт. Але вось калі дзіця, яшчэ нават не ходзячы ў школу, праяўляе выключныя здольнасці, напрыклад, у матэматыцы ці музыцы, або дэманструе проста энцыклапедычныя веды? Тады ў асяроддзі гэтага дзіцяці пачынаюць ўсё часцей гучаць словы: геній, вундэркінд, адоранае дзіця, або дзіця-індыга.

Што ж гэта за дзеці такія, задалі мы пытанне настаўніку-лагапеду "Дзіцячага цэнтра ранняга развіцця" **Людміле Івановай:**

– Па-першае, я лічу, што слова вундэркінд надуманае. Прынята лічыць, што вундэркінды абыходзяць у інтэлектуальным развіцці сваіх аднагодкаў. Але гэта не так. Ва ўсіх адораных дзяцей толькі 10% божага пацалунка, а астатнія 90% – гэта працавітасць, у тым ліку і працавітасць бацькоў у выхаванні свайго дзіцяці.

**– Як зразумець, што ў сям'і расце дзіця з незвычайнымі здольнасцямі?**

– А тут і разумець нічога не трэба. Вы адразу заўважыце, да чаго дзіця праяўляе цікавасць. Толькі накіроўвайце і не перашкаджайце.

**– А як быць з дзецьмі-індыга? Што гэта за дзеці?**

– Гэта тэма для асобнай размовы. Ведаеце, пра такіх дзяцей загаварылі толькі некалькі гадоў таму. І то, загаварылі ў Амерыцы, Еўропе. У нашай сістэме адукацыі няма месца такім незразумелым дзецям. Адной з прыкмет дзіцяці-індыга з'яўляецца развітая гаворка з вялікім слоўнікавым запасам і дарослым разуменнем недзіцячых рэчаў. Такое дзіця дзівіць развагамі, мараллю, сваімі незвычайнымі інтарэсамі. Яшчэ адной прыкметай дзіцяці-індыга з'яўляецца яго адоранасць. У маёй педагагічнай практыцы быў хлопчык, які ў свае чатыры гады лічыў сексцільярды і ведаў тры мовы. І яшчэ ўвесь час задаваў пытанні, праўда, сам сабе на іх і адказваў. І гэта таксама з'яўляецца прыкметай дзіцяці-індыга. І ўсе такія дзеткі, без выключэння, гіпeрактыўныя. Таму, калі маці такога дзіцяці прыводзіць яго на прыём да псіхолага, часцей за ўсё яму ставяць дыягназ "сіндром дэфіцыту ўвагі і гіпeрактыўнасці".

**– Куды потым знікаюць такія дзеці? Яны перарастаюць сваю геніяльнасць? Становяцца звычайнымі?**

– Я ўжо пачала адказваць на пытанне. Такім дзецям памылкова ставяць дыягназ гіперактыўнасць. А што адбываецца з такімі дзецьмі ў садку, школе і наогул у калектыве? Правільна, іх прымушаць не высоўвацца за рамкі, быць, як усе, вучыцца, як усе, сядзець ціхенька, як усе, не перашкаджаць у школе настаўнікам, дома – бацькам. А ў такіх дзяцей і падыход да вучобы зусім іншы.

**– Як трэба вучыць адораных дзяцей?**

– Дзеці з нейкімі звышздольнасцямі, як правіла, гультаі. Ім цяжка вучыць тое, да чаго ў іх няма цікавасці. І бацькі пачынаюць такіх дзяцей караць, прымушаць вучыцца. А гэтага рабіць не трэба. Ваша адоранае дзіця абавязкова дагоніць школьную праграму і без таго, каб зубрыць штодня.

Яшчэ дзеці могуць назапашваць веды. Тады яны проста маўчаць некалькі дзён. У іх унутры ідуць працэсы, а збоку здаецца, што такое дзіця сядзіць і лічыць варон. Ну якому ж настаўніку гэта спадабаецца? Вучэбны працэс для ўсіх аднолькавы, а тут – на табе – адзін вучань выбіваецца з сістэмы.

**– Якую ж параду можна даць бацькам і настаўнікам, якія працуюць з незвычайнымі дзецьмі?**

– Бацькам – убачыць сваё дзіця. А настаўнікам – не прымушаць, а толькі супрацоўнічаць. У адваротным выпадку вы атрымаеце працаўніка, які будзе ўвесь час ваяваць з вамі. І грамадства згубіць яшчэ аднаго генія.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

## У раёне 25 здольных дашкольнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аддзел адукацыі Маладзечанскага райвыканкама амаль штогод ладзіць конкурс "Мінута славы". Мэта гэтага конкурсу – выявіць здольных дзяцей.

Тлумачыць метадыст аддзела адукацыі райвыканкама **Алена Кізіцкая**:

– Сёлета ў фінальны этап конкурсу мы адабралі 25 дзетак, якія ў нечым паказалі свае здольнасці. Напрыклад, выхаванец дзіцячага садка № 26 **Лёша Васілеўскі** вельмі добра спявае, а **Мікіта Герасімчук**, выхаванец садка №5, паспяхова займаецца даследчыцкай дзейнасцю, ён нават выйшаў у фінал абласнога конкурсу. Хочацца дадаць, што ў нас такіх дзяцей вельмі многа. Нехта праяўляе здольнасці ў фізкультуры, нехта ў маляванні.

**– Гэтыя дзеці, на вашу думку, вундэркінды?**

– Не, я нават бы не сказала, што гэта нейк асаблівa адораныя дзеці. Я скажу так: у гэтых дзяцей ёсць здольнасці. І мы працуем для таго, каб гэтыя здольнасці развіваць.

Размову з бацькамі, у якіх у сям'і растуць адораныя дзеці, чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў "Рэгіянальнай газеты".

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як убачыць сімптомы самагубства?

**МАЛАДЗЕЧНА. Прадухіліць самагубства блізкага чалавека магчыма, калі ведаць, як распазнаць знешнія праяўленні яго, успрыняць сур'ёзна і ведаць, як на іх рэагаваць.**

Знешнія праяўленні самагубства могуць быць розныя.

**Папярэджанні на словах.** Размовы аб магчымасці самагубства, напісанне вершаў ці апавяданняў аб смерці. Слоўныя выказванні: "Я збіраюся паканчыць з сабой", "У наступны панядзелак мяне не будзе ў жывых", іншыя.

**Змены ў настроі**. Драматычныя перапады настрою і раптоўныя змены, то безнадзейнасць, то мяцежны стан.

**Парушэнне сну.** Цяжка заснуць, ноччу часта прачынаешся, рана прачынаешся, няма задаволенасці начным сном.

**Парушэнне апетыту.** Паніжэнне апетыту са стратай вагі на 5% і больш кажа пра цяжкасць стану.

**Сыход ад сяброў і сям'і**. Гэта павялічвае сацыяльную ізаляцыю. Людзі выказваюць жаданне, каб іх не чапалі, пакінулі ў спакоі.

**Страта самапавагі.** Адчуванне ўласнай нікчэмнасці, душыць віна, сорам і нянавісць да сябе. Людзі адчуваюць сябе цяжарам ("Вам без мяне будзе лепш"). Перастаюць звяртаць на сябе ўвагу, ім усё роўна, якое ўражанне яны аказваюць на навакольных.

**Рызыкоўныя паводзіны.** Павышанае ўжыванне алкаголю або наркотыкаў, небяспечнае кіраванне транспартам, небяспечны сэкс. Іншыя непатрэбныя рызыкі, як быццам у чалавека ёсць "жаданне смерці".

**Развітальныя паводзіны**. Складанне завяшчання. Аддача каштоўных рэчаў. Напісанне "развітальных" лістоў. Незвычайныя або нечаканыя візіты і званкі сям'і і сябрам.

**Пошук смяротных сродкаў.** Пошук доступу да зброі, лекавых прэпаратаў, нажоў і іншых прадметаў, якія можна выкарыстоўваць пры спробе самагубства.

Жаданне памерці ўзнікае пры страце каханага чалавека, пры адзіноце, у выніку няшчаснага кахання. Праблемы са здароўем і на працы, страх асуджэння і пакарання, развод, доўгія фізічныя або псіхалагічныя прыніжэнні таксама могуць быць прычынамі для суіцыду.

Будзьце ўважлівыя да родных, блізкіх, калег, сяброў. Можа, камусьці менавіта цяпер трэба ваша ўвага, словы падтрымкі і разумення.

За псіхалагічнай дапамогай можна звяртацца па тэлефоне: 8 (0176) 74-66-20 або на адрас: г.Маладзечна, вул. Таўлая, 4. Кансультацыі праводзяцца бясплатна і ананімна.

Вольга МАЛАШКА, псіхолаг Маладзечанскага РЦСЗН.

**У першым паўгоддзі 2014 года ў Беларусі здзейснена 883 суіцыды – на 97 выпадкаў менш, чым за аналагічны перыяд летась. Ад 28 чэрвеня да 4 жніўня 2014 года на тэрыторыі рэспублікі здзейснена 60 суіцыдаў, што значна перавышае сярэднестатыстычны паказчык за папярэднія месяцы 2014 года.**

ГРАМАДСТВА

# Можна далучыцца да ананімных алкаголікаў

**ВІЛЕЙКА. Ад верасня аднавілася група ананімных алкаголікаў.**

Працуе яна на базе аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (ТЦСАН).

Сходы групы будуць праходзіць кожную пятніцу ў 18 гадзін па адрасе: Вілейка, вуліца Маркава, 49. Больш падрабязна аб рабоце групы можна даведацца па нумары (801771) 5-44-56, паведаміла загадчыца аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі ТЦСАН **Марына Скабей**.

Групу ананімных алкаголікаў у Вілейцы пачалі ствараць вясной 2013 года. Праіснавала яна да канца мінулага года. І вось пасля перапынку праца групы аднавілася. Першы сход адбыўся 5 верасня.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ".**
**Ананімныя алкаголікі** – гэта садружнасць, што аб'ядноўвае мужчын і жанчын, якія дзеляцца адзін з адным сваім досведам, сіламі і надзеямі з мэтай дапамагчы сабе і іншым пазбавіцца ад алкагалізму. Адзіная ўмова для сяброўства ў АА – гэта жаданне кінуць піць.

● ТВОРЧАСЦЬ

# Мастачка: Нашы людзі любяць вешаць на сцены навалкі

## Чаму, упрыгожваючы інтэр'ер, беларусы часцей аддаюць перавагу танным карцінам?

**МАЛАДЗЕЧНА. Як выхаваць у дзяцей мастацкі густ, як выбраць якасны габелен і чаму старажытныя віды мастацтва губляюць папулярнасць?**

Пра гэта разважае майстрыха па габеленапляценні з Маладзечна **Марына Баслык**.

Габелены ў інтэр'еры любяць многія – тканае палатно напаўняе пакой цеплынёй і ўтульнасцю. Купіць яго быццам не праблема: у звычайнай краме цэннікам з надпісам "габелен" пазначаныя многія карціны. Але не ўсе ведаюць, што насамрэч яны не маюць нічога агульнага з сапраўдным габеленам.



"Карпатлівая праца майстра часта застаецца за кадрам", – зазначае Марына Баслык, майстрыха па габеленапляценні з Маладзечна.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

### Адзін з самых дарагіх відаў мастацтва

Габелен – гэта аднабаковы дыван, вытканы ўручную перапляценнем гарызантальных і вертыкальных нітак. Майстар мае перад сабой драўляную раму, на якую нацягнутыя вертыкальныя ніткі асновы. Гарызантальныя ён пракладвае сам і імі выкладае ўзор будучага дыванка, шчыльна пераплятаючы іх з ніткамі асновы.

Сваю назву гэты від мастацтва атрымаў ад французскай сям'і Габеленаў, якая кіравала буйной мануфактурай, што займалася ткацтвам ў пачатку 17 стагоддзя.

Цягам стагоддзяў габелен заставаўся адным з самых дарагіх відаў мастацтва: пляценне вялікіх работ займае месяцы, нятанна каштуюць і якасныя ніткі.

### Не блытаць навалку з габеленам

– У нас мала задумваюцца, як зроблены габелен, які купляюць сабе ці ў падарунак, – кажа Марына Баслык. – Прасцей купіць машыннай вытворчасці. Ён будзе танны, і гэта галоўны аргумент. Калі большая частка даходаў ідзе на харчаванне, зразумела, людзям не да аўтарскіх габеленаў.

Майстрыха заўважае, што гэта тычыцца і іншых відаў мастацтва. Мала хто гатовы плаціць болей, каб набыць аўтарскую арыгінальную работу. Танней купіць карціны, якія імітуюць акварэль ці масла, і будуць зробленыя машынай.

– З якімі пачуццямі я гляджу на габелены, што прадаюцца ў багетных крамах? З ніякімі. Бо я на іх не гляджу, адразу адварочваюся. Яны агідныя, бо гэта не мастацтва, а штампаванне.

**У Маладзечне работы машыннай вытворчасці памерам метр на паўметра каштуюць каля 450 тысяч рублёў. Сапраўдны габелен таго ж памеру разам з рамай каштуе мінімум у дзесяць разоў болей.**

– Дакладна ў такой жа тэхніцы машыны робяць накідкі на канапы і навалкі, – дадае спадарыня Марына. – Таму купленыя ў звычайнай краме габелены – гэта тыя ж навалкі, толькі ўстаўленыя ў рамкі. Вядома, кожнаму сваё, але я за тое, каб навалкі заставаліся на падушках.

Сапраўдныя габелены часта робяць з шарсцяных нітак, таму патрэбны спецыяльны догляд: рэгулярна пырскаць сродкам ад молі, вытрасаць пыл.

– Габелен не хаваецца пад шкло, ні ў якім разе! – гаворыць спадарыня Марына. – Да яго трэба дакранацца і адчуваць. Праз шкло габелен не будзе перадаваць сваю цёплую энергію.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**На фота:**

Возьмем канкрэтны прыклад – габелен фармату А4, зроблены з нітак трох колераў – белага, шэрага і чорнага, у драўлянай раме.

Адзін клубок сінтэтычных нітак – 20 тысяч рублёў, шарсцяных – 50 тысяч.

Клубок нітак, якія выкарыстоўваюцца як аснова для пляцення – 20 тысяч рублёў. Рама – ад 50 тысяч рублёў.

Праца майстра: габелен памерам А4 робіцца тыдзень, калі штодня плесці па некалькі гадзін.

Таму трохкаляровы маленькі габелен ручной работы не можа каштаваць танней за 150 тысяч рублёў.

### Тры вучні сярод тысяч школьнікаў

Сёння знайсці дзіця, якое б займалася габеленам, нялёгка.

– І на ўзроўні дзяржавы, і на ўзроўні асобных школ мы павінны дбаць пра тое, каб у дзяцей быў мастацкі густ, – упэўненая майстрыха. – Заняткі многімі відамі творчасці павінны быць абавязковыя для школьнікаў: як дзіця зразумее, што яго цікавіць пляценне, калі ніколі не спрабавала плесці? Можна паказваць яму хоць сто габеленаў, але зацікавіць гэтым цяжка.

Колькасць урокаў малявання ў сярэдняй школе зменшылася, усе іншыя віды мастацтва засталіся толькі ў гуртках і секцыях.

– Былая дырэктар цяперашняй гімназіі-каледжа мастацтваў **Людміла Васілевіч** гадоў дзесяць таму ўвяла габелен як абавязковы прадмет, – працягвае Марына Баслык. – Тады ўзрасла зацікаўленасць, некаторыя абаранялі дыплом у гэтым відзе мастацтва. Цяпер гэтага няма.

Каб займацца габеленам, дзіця павінна быць усядлівым.

– Па сваім досведзе ведаю, што ахвотней дзеці ідуць на заняткі па валянні з шэрсці, – кажа спадарыня Марына. – Там яны адразу бачаць вынік, могуць хутка прынесці гатовую работу дамоў. Габелен жа можна плесці месяцамі.

У Маладзечне гэты від мастацтва не папулярны: за два гады, якія Марына Баслык працуе ў цэнтры творчасці для дзяцей і моладзі "Маладзік", на заняткі па габелене хадзілі тры дзяўчынкі.

### "У габелена тут няма будучыні"

Напрыканцы размовы спадарыня Марына робіць песімістычны вынік: цікавасць да аўтарскай работы знікае.

– Краіне патрэбная моладзь, якая ўмее будаваць дамы і працаваць на зямлі, – кажа яна. – А мастацтва – гэта для тых, у каго вольны час ёсць.

Жыць толькі з уласнай творчасці атрымліваецца мала ў каго. Адзінае выйсце, мяркуе майстрыха, – прадаваць работы за мяжу, дзе пакупнік ацэніць ручную працу і будзе гатовы за яе заплаціць.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

### Як выбраць сапраўдны габелен

1. Габелен ручной работы трэба шукаць не ў звычайным універмагу, а ў галерэях мастацтва і непасрэдна ў майстроў.
2. Тое, што габелен саткан ўручную, відаць няўзброеным вокам: у ім бачныя гарызантальныя і вертыкальныя рады нітак, а пляценне не заўсёды ідэальна гладкае.
3. Аўтарская работа не можа каштаваць танна, тады майстар не акупіць затрачаных на габелен матэрыялаў.

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## Ці трэба мадэрнізацыя льнозаводу

**МАЛАДЗЕЧНА. Міжраённы камітэт дзяржкантролю выявіў мноства парушэнняў у тэхналогіі апрацоўкі лёну ў ААТ "Красненскі льнозавод".**

Асноўныя машыны і механізмы на заводзе зношаныя на 100%. Гэта прыводзіць да зрыву паставак ільноваллакна ў кошт дзяржаўнага заказу.

Купленая ж дарагая льноўборачная тэхніка прастойвае.

Набыты льноўборачны камбайн "Ліда-U30", за які аддалі не адзін мільён рублёў, прастойваў два гады па тэхнічных прычынах.

А сёлета з яго дапамогай сабралі толькі 48 гектараў са 1000 пасеяных.

З-за таго, што таварыства працуе сабе ў страту, мадэрнізацыю вытворчасці правесці немагчыма.

І, як вынік, узнікае пытанне: ці трэба несці вялікія выдаткі на набыццё тэхнікі, ад якой няма ніякай карысці?

**Вера ЧЫСЦЯКОВА**, старшыня Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.

● МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Будзьце ўважлівыя, калі ідзяце ў грыбы ці ягады

**МАЛАДЗЕЧНА. 24 чэрвеня жыхар вёскі Раёўка пайшоў у лес і не вярнуўся. Знайшлі яго нежывым толькі 11 жніўня.**

Сёлета ў органы ўнутраных спраў Маладзечанскага раёна паступіла больш за 10 паведамленняў аб знікненні людзей у лесе. Некаторых жывымі так і не знайшлі.

Маладзечанскі РАУС папярэджвае людзей, каб яны былі больш пільныя, калі ідуць у грыбы ці ягады.

**Калі вы заўважылі ў лесе нейкія рэчы, ровар ці кошык, тэрмінова паведаміце ў бліжэйшы орган унутраных спраў па тэлефоне 102.**

**Валянцін АСІПОВІЧ**, начальнік Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў.



Фота Наталлі ТУР.

Хаця маладзечанцы і выйгралі ў мінскага "Тарпеда", але ў першую чацвёрку чэмпіянату ўжо не трапяць.

ДРУГАЯ ЛІГА

# ФК "Маладзечна-2013" - ФК "Тарпеда" – 2:1

**МАЛАДЗЕЧНА. З лікам 2:1 на карысць маладзечанцаў закончыўся матч 20-га тура чэмпіянату краіны па футболе, які адбыўся 6 верасня на гарадскім стадыёне.**

Пачатак гульні для гаспадароў аказаўся драматычным. Ужо на чацвертай хвіліне матча мяч трапіў у вароты маладзечанцаў. Да канца першага тайма лік гульні не змяніўся.

– Мы блага пачалі, – каментуе гульню трэнер **Андрэй Лявончык**, – хутка прапусцілі першы мяч. Гэта адбылося не таму, што гульцы "Тарпеды" паказалі нейкі суперузровень. Памылка ў нашай абароне.

Футбалісты ФК "Тарпеда", па словах Андрэя Лявончыка, дзейнічалі ў гульні ў сваім прадказальным ключы. У тарпедаўцаў тактыка гульні пабудаваная такім чынам, што яны мала забіваюць, але і прапускаюць таксама мала. У выніку ініцыятыву перахапілі маладзечанцы. Стваралі небяспечныя моманты, якія да галоў, на жаль, не прыводзілі.

У другім тайме ўдача ў атаках нарэшце ўсміхнулася маладзечанцам.

– Самааддача гульцоў усцешыла, – працягвае Андрэй Лявончык, – малайцы ўсе. Выдатную гульню паказаў **Андрэй Шаблінскі**. І два мячы, што забіў Андрэй, таму пацвярджэнне. Але, як я заўсёды кажу, футбол – гэта гульня камандная. Як, у першым выпадку, без праходу **Юры Бугая** не было б гола, так і перад другім голам абаронца **Цімафей Ігруша** таксама зрабіў сваю справу.

Але гэта не значыць, што ўвесь тайм маладзечанцам спрыяла ўдача. Гульцы ФК "Тарпеда" таксама стварылі небяспечныя моманты, і каб не дзіва-выпад варатара **Вадзіма Хмяльніцкага**, то лік на табло мог быць зусім іншы.

На пытанне, што чакаць ад каманды ў наступных матчах, Андрэй Лявончык адказаў:

– Цяпер у нас няма матывацыі выйсці ў першую чацвёрку чэмпіянату, таму будзем гуляць для сябе, для заўзятараў. Але сезон пакуль не заканчваецца. Так што прыходзьце на матчы.

### "Андрэй, ты ж абязцаў"

Асобна хочацца сказаць пра заўзятараў маладзечанскай каманды. Падтрымлівалі так, быццам гэты матч быў самым важным і прынцыповым для ФК "Маладзечна-2013".

Аднак з усіх крычалак, знаёмых вуху сталых наведнікаў, была адна, якая выклікала пытанні. Заўзятары перыядычна выкрыквалі: "Андрэй Шаблінскі, ты ж абяцаў!".

І толькі ў канцы матча адзін з заўзятараў патлумачыў, што перад пачаткам гульні Андрэй Шаблінскі паабяцаў перамогу. І аматараў футбола не падмануў.

**Наталля ТУР.**

**Наступны матч адбудзецца 13 верасня на гарадскім стадыёне. ФК "Маладзечна-2013" прымае ў гасцях ФК "Узда". Папярэдні час пачатку матча – 13.00.**

ПЕРШАЯ ЛІГА

## "Смаргонь" атрымала першую валявую перамогу ў сезоне

**СМАРГОНЬ. У суботу, 6 верасня, футбольны клуб "Смаргонь" прымаў у чарговым матчы чэмпіянату краіны светлагорскі "Хімік".**

Улічваючы шчыльнасць камандаў у верхняй частцы турнірнай табліцы, гэта сустрэча для абедзвюх камандаў мела вялікае значэнне.

Першы тайм прайшоў у роўнай барацьбе. Каманды мелі па некалькі момантаў, але гульцам бракавала дакладнасці пры завяршальным удары. У першай палове лік так і не адкрылі.

Затое ў самым пачатку другога тайма светлагорцы зарабілі права на штрафны. **Аляксандр Бяляўскі** магутна прабіў з метраў 35-ці. Варатар смаргонскай каманды адбіў мяч перад сабой, але **Аляксандр Архіпцаў** паспеў першым на дабіванне. Госці павялі ў ліку на 48-й хвіліне.

Гаспадары пасля прапушчанага мяча сталі гуляць больш агрэсіўна. Гэта прынесла плён. **Мікалай Рындзюк** двойчы пакараў абарону светлагорцаў за няспрытнасць. На 52-й хвіліне пасля перадачы **Рамана Гаркушы** ён аднавіў раўнавагу. А на 70-й **Аляксей Сквярнюк** "накруціў" трох абаронцаў "Хіміка" і выдаў дакладную перадачу Мікалаю, які тут жа прабіў з кута варатарскай плошчы.

У канцоўцы сустрэчы абедзве каманды маглі вызначыцца яшчэ па адным-два разы. Але ў некаторых момантах добра дзейнічалі варатары, а ў некаторых зноў падводзіла дакладнасць атакуючых гульцоў абедзвюх камандаў.

Атрымаўшы перамогу ў суботнім матчы, ФК "Смаргонь" скараціў адставанне ад чацвертага месца да двух ачкоў. Наперадзе ў каманды тры выязныя матчы. Сапернікамі "чырвона-чорных" будуць: "Мінск-2", "Іслач" і "Смалявічы-СТГ".

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ,**
**Смаргонь.**

НАВІНЫ

### Матчы "Смаргоні" анлайн

**СМАРГОНЬ.** Футбольны клуб "Смаргонь" удзельнічае ў праекце Беларускай федэрацыі футбола па правядзенні анлайн-трансляцый матчаў першай лігі.

– Першую анлайн-трансляцыю дамашняга матча ФК "Смаргонь" правеў 6 верасня. Гэта была гульня супраць светлагорскага "Хіміка", – расказаў прэс-аташэ футбольнага клуба "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч**. – І суботні гасцявы матч супраць ФК "Мінск-2" таксама будзе транслявацца ў рэжыме анлайн з Мінска. Трансляцыю можна будзе паглядзець па адрасе fc-smorgon.by на старонцы "Анлайн" у раздзеле "Мультымедыя".

### "Маладзечна-ДЮСШ-4" – пераможца ў групе "А"

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН.** Матчамі 18-га тура завяршыліся гульні ў групах "А" і "В" чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе.

"Валожын-2010" у які ўжо раз за няяўку на гульню атрымлівае тэхнічнае паражэнне з лікам 0:3. На гэты раз тры ачкі падарылі "Віліі".

У нядзелю "Забудова-2007" без шанцаў прайграла ў гасцях "Жодзіну-2007". Лік сустрэчы 0:6.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" гуляла ў гасцях з "Беразіно". Маладзечанцы здолелі выйграць 3:2 і ўтрымалі першае месца ў групе. Перамогу забяспечылі два галы **Лавора** і адзін **Чабрыцкага**.

Іншыя каманды рэгіёна не трапілі ў чацвёрку лепшых у групе, якія працягнуць барацьбу за высокія месцы. "Вілія" заняла шостае месца, "Забудова-2007" – сёмае. Набралі яны па 25 ачкоў. Але па дадатковых паказчыках "Вілія" апынулася вышэй. "Валожын-2010" – апошні.

Далей па чатыры лепшыя каманды з груп "А" і "В" разыграюць першае-восьмае месцы чэмпіянату. Пры гэтым улічваюцца ачкі, набраныя ў сустрэчах паміж сабой. І "Маладзечна-ДЮСШ-4" пакуль на першым месцы ў васьмёрцы лепшых.

Каманды, што не трапілі ў васьмёрку, аспрэчаць месцы з 9 па 20.

### Гулялі тэнісісты з рэгёна

**МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ, ВАЛОЖЫН.** У Маладзечне 6 верасня прайшлі зональныя спаборніцтвы па настольным тэнісе сярод дзяцей і падлеткаў па месцы жыхарства. Удзельнічалі ў іх прадстаўнікі чатырох раёнаў.

Каманду Мядзельскага раёна прадстаўлялі навучэнцы Крывіцкага сада-школы.

Сярод дзяўчат яны занялі трэцяе месца, а паміж хлопцаў – другое. Пра гэта расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі.**

У дзяўчат перамагла каманда Маладзечанскага раёна. А сярод хлопцаў лепшыя вынікі ў валожынцаў.

### "Дынама-Маладзечна" закінула чатыры шайбы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Хакейная каманда "Дынама-Маладзечна" 8 верасня ў гасцях упэўнена перайграла "Ліду". Сустрэча завяршылася з лікам 4:0 на карысць маладзечанцаў. Шайбы закінулі **Аўтаеў, Знахарэнка, Філічкін, Зазон**.

Наступныя матчы дынамаўцы правядуць 11 верасня супраць жлобінскага "Металурга" і 13 верасня – супраць "Гомеля", паведамляе hcdinamo.by.

### У турзлёце дзіцячых цэнтраў перамагла "Лясная паляна"

**ВІЛЕЙКА.** Ад 5 да 7 верасня ў раёне праходзіў дзявяты рэспубліканскі турзлёт калектываў дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў. Адбыўся ён на базе летняга палатачнага лагера "Крыніца", які належыць цэнтру "Надзея".

Сабраліся прадстаўнікі шасці дзіцячых цэнтраў. Лепшых выбіралі ў пераадоленні турыстычнай паласы, дартсе, трыятлоне, піянерболе і іншых спаборніцтвах.

Першымі ў камандным заліку сталі прадстаўнікі дзіцячага цэнтра "Лясная паляна" (вёска Жодзішкі, Смаргонскі раён), распавяла вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі" **Таццяна Майсак.**

### Лідзіруе "Першы Беларускі"

**ВІЛЕЙКА.** У чэмпіянаце раёна па футболе ў гэтыя выхадныя завяршыўся другі круг. Сустракаліся лідары – "Першы Беларускі" і "Мехатроніка". Гульня завяршылася з лікам 2:1 на карысць "Першага Беларускага", расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

Першую перамогу атрымалі "Шылавічы": з лікам 5:2 абыгралі "Вязынь". Па выніках другога круга лідзіруе "Першы Беларускі": мае каманда 21 ачко. На тры менш у "Мехатронікі".

Неўзабаве пачнецца трэці круг чэмпіянату. Пасля завяршэння яго і вызначацца прызёры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### У Маладзечне хуліганы разбілі 35 машын

Ёсць сведкі, якія гавораць, што хуліганаў было некалькі. Чаму ж не патэлефанавалі ў міліцыю? Нават адзін уласнік бачыў, як скакалі па машыне, але нічога не зрабіў, акрамя таго, як пайшоў спаць. Усяго гэтага можна было і пазбегнуць. *Лія.*

### Анатоль Тозік: Усе выкладчыкі без выключэння павінны валодаць беларускай мовай

Для чаго, цікава? Каб паставіць птушачку ў нейкім бланку? *Аж.*

Пашырэнне беларускай мовы трэба пачынаць не з настаўнікаў, а з перапрацоўкі падручнікаў. Чаму, напрыклад, гісторыя Беларусі на рускай мове? Настаўнікі, можа, і рады размаўляць і вучыць дзяцей пабеларуску. Аднак тады ў галовах вучняў будзе каша. Матэрыял выкладаем па-беларуску, а падручнікі рускія. *Мадам.*

### Робім зарадку на працоўным месцы

Цікавы матэрыял. Галоўнае, карысны. Бо кожны павінны клапаціцца пра сваё здароўе, каб не лятаць па дактарах. *Ар'я.*

### Адзіную перамогу з камандаў рэгіёна атрымала "Маладзечна-ДЮСШ-4"

На вобласці перамагаць – гэта, безумоўна, вялікі ўзровень! *Сяргей.*

Лепш выйграваць ва ўсіх на вобласці, чым мучыцца і прайграваць усім запар у 2-й лізе. *Аляксандр.*

### Чаму гаспадары бачылі маладзечанскіх "скакуноў" па машынах, але не паведамілі ў міліцыю

Прычым тут страхоўка, калі няма ДТЗ? Пазоў аб кампенсацыі шкоды з вінаватых. *Канстанцін.*



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 8 | | |
| | 9 | 8 | 2 | 5 | 1 | | 7 | 3 |
| | | | 3 | 7 | | 2 | | |
| | 2 | 9 | 5 | | | | | 4 |
| | | | | | | | | |
| 6 | | | | | 3 | 1 | 5 | |
| | | 2 | | 9 | 5 | | | |
| 9 | 6 | | 1 | 4 | 2 | 5 | 3 | |
| | | 1 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталі ТУР.

**Побач з Маладзечанскім політэхнічным каледжам. Навучэнцы чакаюць, калі паедуць на бульбу.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Камедыя **"Карпараты́ў"** (Расія, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 18 гадоў)
18 верасня – у 22:00
Кошт білета: 50 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыйныя прыгоды **"7-ы гном"** 3D (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
18 верасня – у 20:00
Кошт білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Сямейныя прыгоды **"Гісторыя дэльфіна 2"** (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
12 верасня – у 16:30 (20 000 рублёў)
13 верасня – у 16:00 (25 000 рублёў)
14 верасня – у 15:30 (25 000 рублёў)

Прэм'ера! Фантастычны баявік Люка Бесона **"Люсі"** (Францыя, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 гадоў)
12, 13 верасня – у 21:00
14 верасня – у 20:00
15 верасня – у 21:00
16 верасня – у 19:00
17 верасня – у 21:00
18 верасня – у 18:00
Кошт білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер **"Нястрымныя 3"** (ЗША, Францыя, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 гадоў)
13 верасня – у 18:30 (45 000 рублёў)
14 верасня – у 22:00 (50 000 рублёў)
15 верасня – у 18:30 (45 000 рублёў)
16 верасня – у 21:00 (45 000 рублёў)
Кошт білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыйная камедыя **"Самалёты: Агонь і вада"**, 3D (ЗША, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
13 верасня – у 14:00
14 верасня – у 13:30
16 верасня – у 17:00
Кошт білета: 30 000 рублёў

Крымінальны трылер, баявік **"Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць"**, 3D (ЗША, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 18 гадоў)
17 верасня – у 18:30
Кошт білета: 50 000 рублёў

Трылер, баявік **"Насустрач шторму"**, 2D (ЗША, 2014, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12 верасня – у 19:00
Кошт білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Камедыя **"Самотны па кантракце"** (Украіна, 2014)
15-17 верасня – у 21:30
18 верасня – у 19:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Прыгоды **"Гэта твой дзень"** (Расія, 2013)
12 верасня – у 17:30 (20 000 рублёў)
13 верасня – у 16:30 (15 000 рублёў)
14 верасня – у 16:00 (15 000 рублёў)

Драма, камедыя **"Гэтай раніцай у Нью-Ёрку"** (ЗША, 2014, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12 верасня – у 21:30
13 верасня – у 19:30
14 верасня – у 21:30
16, 17 верасня – у 19:30
18 верасня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Драма **"На крылах"** (Расія, 2013, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12 верасня – у 19:30
13 верасня – у 21:30
14 верасня – у 19:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама **"Лета. Аднакласнікі. Каханне"** (ЗША, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12, 13, 14 верасня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама **"Ракавая жарсць"** (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
12, 13, 14 верасня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя **"Кот Гром і зачараваны дом"** (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
13, 14 верасня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя **"Шалёны спецназ"** (ЗША, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17, 18 верасня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер **"Окулус"** (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
17, 18 верасня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП (12-18 ВЕРАСНЯ)



**Авен.** У вас будуць мільёны (!) магчымасцяў, каб увасобіць у жыццё любыя планы, нават самыя патаемныя і неймаверныя. Так што бярыце лейцы лёсу ў свае рукі і кіруйце імі так, як вам хочацца.



**Цялец.** Ва ўсіх сферах жыцця вам ўдасца займець поспех. Асабліва гэта закране любоўныя адносіны, дзе вы праявіце сябе з зусім новага, незнаёмага нават вам самім боку.



**Блізняты.** Вы адчуеце прыліў сіл, якім грэх не скарыстацца. А яшчэ ўзрасце ўзровень інтуіцыі, дзякуючы чаму вы хутка знойдзеце выратаванне любых праблем.



**Рак.** Важная і карысная інфармацыя будзе сыпацца на вас адусюль, але паступаць яна будзе ў злёгку завуаліраваным выглядзе. Таму давядзецца не толькі прыслухоўвацца да галасоў звонку, але і да голасу інтуіцыі знутры.



**Леў.** Старайцеся рабіць так, каб вашы дзеянні прыносілі карысць не толькі вам, але і навакольным людзям, прытым не толькі блізкім уласна вам, але і грамадскасці ў цэлым. Такія ўчынкі не застануцца незаўважанымі, і дабрыня абавязкова вернецца вам у адказ.



**Дзева.** Удача ўсміхаецца вам, а значыць, вам удасца лёгка разабрацца са справамі, якія патрабуюць нямала вашай увагі.



**Шалі.** Цяпер на вашым жыццёвым шляху няма небяспечных паваротаў, вы ідзяце правільным шляхам.



**Скарпіён.** Калі жадаеце дабіцца нечага ад каханага свайго, шукайце абходныя шляхі. Настойлівасць не дапаможа.



**Стралец.** Вам варта скіраваць сілы, каб паспрабаваць сябе ў чымсьці зусім новым і нечаканым.



**Казярог.** Вы настроеныя палепшыць фінансавы стан. Вызначыцеся, якая вам сума патрэбная і ў якія тэрміны вы хочаце яе зарабіць. Не маючы вызначаных межаў, вы можаце ператалміцца. І атрыманыя грошы пойдуць не на жаданае, а на папраўку здароўя.



**Вадалей.** Вас ужо даўно не задавальняе цяперашні стан рэчаў. Самы час накіраваць сілы на тое, каб змяніць уласны лад жыцця ў значна лепшы бок.



**Рыбы.** У вас небывалая здольнасць мець уплыў на навакольных. Але не забывайце, што злоўжываць такім нельга.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**13 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +21 | | +12 / +22 | | +13 / +22 | | +13 / +19 | |
| | 748 | ↖ 3 | 749 | ↖ 4 | 749 | ← 4 | 750 | ← 3 |
| Вільня | +14 / +22 | | +14 / +23 | | +15 / +22 | | +13 / +22 | |
| | 755 | ↖ 4 | 756 | ↖ 3 | 757 | ← 4 | 757 | ← 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.42
Захад 19.34
Даўжыня дня 12.52

Усход 21.36
Захад 12.16
Квадра 3




## ● ПРЫКМЕТЫ

- У беларусаў-каталікоў Узвіжанне, Здвіжанне (14 верасня). "На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы".
- Калі дождж пайшоў з сярэдзіны дня – зацягнецца надоўга.
- У верасні адна ягада, ды і тая горкая рабіна.

## Чытайце праз тыдзень:

**Як можна праляцець над Нарачанкай? Што такое тролей, роўпджампінг і слэйклайн і якое дачыненне яны маюць да Вілейшчыны? Чытайце ў наступным нумары "РГ".**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Шукаюць сведкаў аварыі па Касманаўтаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Аддзел ДАІ шукае відавочцаў аварыі, якая адбылася 25 жніўня а 19 гадзіне ля дома 2 па вуліцы Касманаўтаў.**

На скрыжаванні вуліц Касманаўтаў і Праектуемай сутыкнуліся "Опель-Астра", які выязджаў з двара, і "Форд-Скорпіа", які паварочваў на Праектуемую.

Просім сведкаў і відавочцаў ДТЗ паведаміць у аддзел ДАІ па адрасе: **вуліца Тамары Дудко, дом №1, пакой 18**, ці па тэлефонах: **74-53-40**; **74-53-43** або **102**.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 36 (1010) 05.09.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак.764. Падпісана ў друк у 10.00 04.09.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.